# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

БАЦЬКАЎШЧЫНА

№6 (265)

чэрвень 2024

Інфармацыйны бюлетэнь • Супольнасць беларусаў свету “Бацькаўшчына”


## У НУМАРЫ:

### Фонд Kamunikat.org адчыніў інтэрнэт-кнігарню Kamunikat.shop!

Рана ці позна гэта павінна было адбыцца – фонд Kamunikat.org адчыніў інтэрнэт-кнігарню Kamunikat.shop! Цяпер тут можна рабіць замовы на ўсе кнігі, выдадзеныя фондам, а таксама на кнігі партнёрскіх выдавецкіх ініцыятываў.

Старонка 5





Васіль Быкаў, Станіслаў Шушкевіч і Ганна Сурмач у прэзідыюме Першага з’езду беларусаў свету. Мінск, 8 ліпеня 1993 года

# Ганна Сурмач: БЕЗ БЫКАВА І З’ЕЗД БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ ПРАЙШОЎ БЫ ЗУСІМ ІНАКШ

Сваімі ўспамінамі пра Васіля Быкава дзеліцца Ганна Сурмач, грамадская дзяячка і гісторык, старшыня Рады ЗБС “Бацькаўшчына” ў 1993–1999 гг.

Ад пачатку кантактаў з замежнымі суродзічамі ў канцы 80-х гадоў мінулага стагоддзя Васіль Быкаў з вялікай павагаю і цікавасцю ставіўся да беларусаў, якія былі вымушаныя пакінуць радзіму і ўладкоўваць новае жыццё на чужыне. Іхны патрыятызм, глыбокая нацыянальная свядомасць, якую эмігранты захавалі праз усё жыццё, адпавядалі ягоным поглядам на нацыянальную беларускую справу. Калі ў 1990 годзе ўзнікла ініцыятыўная група пад кіраўніцтвам Яўгена Лецкі, якая задумала стварыць “Згуртаванне беларусаў свету (ЗБС) “Бацькаўшчына”, Васіль Уладзіміравіч актыўна падтрымаў гэтую важную справу і ўзяў удзел ва ўстаноўчай канферэнцыі. Тады яго выбралі на пасаду першага прэзідэнта арганізацыі. Сваім аўтарытэтам і рэальнай працаю Быкаў моцна падтрымліваў Згуртаванне ў першыя гады дзейнасці.

У канцы 1992 года кіраўніцтва ЗБС “Бацькаўшчына” прыняло адказнае рашэнне – правесці ў Мінску I з’езд беларусаў свету. Гэта былі, як выглядала, спрыяльныя часы для такога вялікага форуму, які павінен быў аб’яднаць у адзінае цэлае метраполію і эміграцыю, раней падзеленыя “жалезнай заслонаю”.

Падрыхтаваць такі з’езд – адказная і складаная праца. Немагчыма было выканаць яе без супрацоўніцтва з дзяржаўнымі структурамі, з урадам Вячаслава Кебіча. Нягледзячы на тое, што Беларусь абвесціла дзяржаўную незалежнасць, не было распачата паўнавартаснага працэсу дэмакратызацыі краіны. Улада заставалася ў руках савецка-партыйнай наменклатуры. Дзяржаўныя структуры фармальна падтрымалі ідэю правядзення з’езду, але глядзелі на ягоныя мэты з пазіцыі сваіх інтарэсаў. Іх найперш цікавілі сувязі з замежжам праз выкарыстанне беларускай дыяспары ў свеце. Нацыянальныя інтарэсы і перспектывы дэмакратычнага развіцця краіны іх не надта цікавілі.

Частка дэмакратычных сілаў выступіла супраць з’езду, даводзячы, што яшчэ не прыйшоў час для такога форуму, што існуе небяспека, што ўлады скарыстаюць з’езд у сваіх інтарэсах, а на з’ездзе можа адбыцца перадача мандата дзяржаўнай улады Радаю БНР ураду Кебіча.

У такіх складаных супярэчлівых умовах даводзілася рыхтаваць з’езд. З боку ЗБС “Бацькаўшчына” галоўнай задачай было не дапусціць дзяржаўныя структуры да кіраўніцтва форумам, захаваць кантроль над парадкам правядзення з’езду. Кіраўніцтва ЗБС цвёрда трымалася гэтай пазіцыі. Былі прадугледжаныя усе магчымыя метады і спосабы, каб форум прайшоў у інтарэсах беларускай грамадскасці, а не паводле плану дзяржаўных структураў.

Месцам правядзення з’езду быў вызначаны будынак Опернага тэатру, зала якога разлічаная прыкладна на паўтары тысячы прысутных. Адкрываць з’езд павінен быў прадстаўнік ЗБС “Бацькаўшчына”, арганізатара з’езду, яе прэзідэнт Васіль Быкаў.

Аднак гэтаму запярэчыў Пятро Краўчанка, тагачасны міністр замежных справаў, які прадстаўляў улады ў працэсе падрыхтоўкі з’езду. Я была ад ЗБС старшынёю працоўнай групы, і мяне спадар Краўчанка запрасіў на сустрэчу з ім у міністэрства, каб абмеркаваць пытанні падрыхтоўкі. Падчас абмеркавання Краўчанка заявіў, што ён сам будзе адкрываць з’езд. Я катэгарычна запярэчыла. З нашага боку гэта было недапушчальна, гэта азначала, што ўлады будуць кіраваць з’ездам.

Працяг на старонцы 2.

**Быкаву – 100!**

# Ганна Сурмач: БЕЗ БЫКАВА І З’ЕЗД БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ ПРАЙШОЎ БЫ ЗУСІМ ІНАКШ

Працяг са старонкі 1.

Мая адмова, аднак, нічога не значыла для міністра. Вечарам, перад днём адкрыцця, я даведалася, што Краўчанка мае цвёрды намер адкрываць форум. Гэта была бяссонная ноч. Нешта трэба было рабіць.

І тут дапамог Васіль Уладзіміравіч. Я знайшла яго ў фае тэатру, дзе ўжо гуло людское мора. Мы перамовіліся, пабеглі ў оперную залу, на сцэну, дзе былі пастаўленыя сталы і крэслы для ганаровага прэзідыуму. Васіль Уладзіміравіч уладкаваўся каля мікрафона, а я села побач. Калі празвінеў званок і зала пачала запаўняцца людзьмі, прыйшоў са спазненнем і Краўчанка. Але месца ля мікрафона і побач ужо было занятае. Адхіліць Васіля Уладзіміравіча ад мікрафона Краўчанка не адважыўся, ды і не змог бы ў той сітуацыі.

Васіль Быкаў урачыста адкрыў з’езд і кіраваў першымі ягонымі паседжаннямі. Дзякуючы яму нам удалося захаваць кіраўніцтва з’ездам. Там былі прынятыя важныя, канструктыўныя дакументы, якія адлюстроўвалі волю і жаданні беларускага народу. І, што важна, не адбылася перадача мандатаў Рады БНР ураду Кебіча.

Першы з’езд беларусаў свету стаўся важнай гістарычнай падзеяй. Пазней правесці такі ўсенародны форум, калі б мы не адважыліся на гэта ў ліпені 1993-га, у нас ужо не было б шанцу.

svaboda.org

ЗБС «Бацькаўшчына» (Courtesy Photo)



У прэзідыюме Першага з’езду беларусаў свету міністр замежных спраў Беларусі Пётр Краўчанка, Васіль Быкаў і спікер Вярхоўнага Савета Беларусі Станіслаў Шушкевіч

# РАДА БНР ВЫПУСЦІЛА МАРКУ ДА 100-ГОДДЗЯ ВАСІЛЯ БЫКАВА

Рада Беларускай Народнай Рэспублікі выпусціла марку да 100-годдзя Васіля Быкава. Пра гэта Свабодзе расказаў намеснік старшыні Рады БНР Сяргей Навумчык.




Паводле яго, яшчэ ў пачатку 2024 года Рада БНР прапанавала абвясціць цяперашні год Годам Васіля Быкава – 19 чэрвеня спаўняецца 100 гадоў з дня нараджэння выбітнага беларускага пісьменніка.

“Гэтую ініцыятыву падтрымалі ў асяродках дыяспары. У Польшчы, Літве, ЗША, Канадзе пройдуць прысвечаныя Быкаву імпрэзы. У Славянскай бібліятэцы ў Празе адбудзецца канферэнцыя і адкрыецца адмысловая выстава, якая будзе працаваць усё лета. Таксама Рада БНР прафінансавала выданне кнігі „Быкаў-100“ з выбранымі цытатамі Васіля Быкава і ўспамінамі пра яго”, – расказаў Сяргей Навумчык.

Днямі ў Празе Рада БНР выпусціла марку, прысвечаную Васілю Быкаву. Эскіз маркі зрабіў беларускі мастак (імя яго не называюць дзеля ягонай бяспекі), скарыстаўшы фотаздымак вядомага беларускага фатографа Уладзімера Кармілкіна пачатку 90-х гадоў.

“Калі выкарыстоўваць паштовыя і філатэлістычныя тэрміны, дык гэта купон, але ў счэпцы з афіцыйнай маркай Чэшскай Рэспублікі ён з’яўляецца дзейсным знакам паштовай аплаты”, – сказаў Сяргей Навумчык.

Паводле яго, марку выпусцілі ў дзвюх версіях – для ўнутраных і для міжнародных паштовых адпраўленняў, з выкарыстаннем так званых “літарных” наміналаў (калі пазначаецца не канкрэтная цана, скажам 10 крон, а лацінская літара B, у такім выпадку пры росце кошту паштовых паслуг не трэба клеіць на канверт дадатковую марку).

Маркі плануюць распаўсюджваць пераважна ў дыяспары, але будуць таксама шукаць магчымасць, каб хоць невялікая частка марак трапіла філатэлістам у Беларусь.

svaboda.org

навіны

# СВЯТА БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ Ў БЕЛАСТОКУ

У Беластоку ў парку Планты прайшло традыцыйнае штогадовае Свята беларускай культуры.

Артысты з розных куткоў Падляшша паказалі шматлікай публіцы больш за 30 нумароў – беларускіх песень і танцаў.

Гаворыць старшыня Беларускага грамадска-культурнага таварыства Васіль Сегень:

– Так даўно пачалі ладзіць гэтае "Свята беларускай культуры", што нават не памятаю. Ужо напэўна больш за 20 гадоў гэтае свята праходзіць менавіта ў Беластоку. Калі людзі прыходзяць зацікаўленыя, то гэта сведчанне таго, што мерапрыемства добрае, удалося. Бачым патрэбу рабіць гэта ў будучыні.

Гэтае мерапрыемства ў Беластоку, як і штогод, ладзіць Беларускае грамадска-культурные таварыства пры падтрымцы Міністэрства ўнутраных спраў і адміністрацыі Польшчы, з удзелам гарадскіх і ваяводскіх уладаў Беластока і Падляшша.

Юрась Дзяшук, racyja.com




in memoriam

# ПАМЕРЛА ЛІДЗІЯ САВІК

Вельмі сумная вестка прыйшла з Мінска – памерла адна з заснавальніц і шматгадовы сябра Рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" Лідзія Савік. Сёлета ёй споўнілася 88 гадоў.

Шмат гадоў Лідзія Сымонаўна працавала старшым навуковым супрацоўнікам Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН Беларусі, затым – прафесарам Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў, выкладаючы беларускую літаратуру. Была таксама сябрам Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў і старшынёй камісіі па вяртанні спадчыны беларускіх пісьменнікаў.

Менавіта дзякуючы яе карпатлівай працы, у тым ліку з архівамі КДБ, да якіх яна на пачатку 90-х атрымала доступ, у культурны ўжытак вярнуліся дзясяткі імёнаў і літаратурных твораў беларускіх рэпрэсаваных пісьменнікаў і дзеячаў эміграцыі.

Выдатная пісьменніца і даследчыца беларускай літаратуры, Лідзія Сымонаўна выдала некалькі манаграфій, прысвечаных праблемам развіцця беларускай літаратуры, культавую кнігу "Пакліканыя: літаратура беларускага замежжа" (2001) і некалькі кніг у суаўтарстве на сумежную тэматыку. Напісала больш за 300 артыкулаў, рэцэнзій і энцыклапедычных артыкулаў.

Беларусь страціла цудоўнага навукоўца і культурнага дзеяча, а "Бацькаўшчына" страціла надзейнага паплечніка і сябра.

Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" смуткуе і выказвае шчырыя спачуванні сваякам, блізкім і калегам Лідзіі Савік, а таксама ўсім, хто яе ведаў і ў яе вучыўся.

ЗБС "Бацькаўшчына"



мова

# АБ'ЯДНАННЕ АБ-БА ПАДВЯЛО ВЫНІКІ САМАДЗЕЙНАСЦІ Ў БЕЛАСТОКУ

У беластоцкім NieTeatr прайшло чарговае штогадовае падвядзенне вынікаў мастацкай самадзейнасці дзяцей і моладзі Аб'яднання АБ-БА. Гледачоў сустрэлі не толькі дзве аматарскія тэатральныя прэм'еры і беларускія спевы, але і навіна аб сыходзе на пенсію настаўніцы беларускай мовы пачатковай школы №4 Аліны Ваўранюк.

Кажа сама спадарыня Аліна, шматгадовая руплівіца беларускай справы ў Беластоку:

– Прэм'ера двух спектакляў – гэта мае апошнія спектаклі. Ужо з 1 верасня працаваць не буду, будзе наступны настаўнік ці настаўніца. Трэба ведаць, калі сысці са сцэны. Усе гады, калі вядзецца беларуская мова, – гэта мая праца тут. Застаецца падручнік для 7 класа, падручнік для 8 класа. У гэтым годзе будзе дыск для 7 класа, але ў дыск для 8 класа трэба яшчэ выбраць песні. Так што не будзе так, што я абсалютна нічога не буду рабіць.

У другой частцы ўрачыстага мерапрыемства, прысвечанага падсумаванню вынікаў мастацкай самадзейнасці аб'яднання “АБ-БА”, на пляцоўцы Непублічнай школы Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку, выступіў танцавальны гурт “Падляшскі вянок” са сваімі найлепшымі нумарамі.

racyja.com




# Ігар Лукашук: ВАЖНА, КАБ ЧЫНОЎНІКІ АД АДУКАЦЫІ ПАЗНАЁМІЛІСЯ СА СПЕЦЫФІКАЙ ПАДЛЯШША

У Беластоку прайшло выязное паседжанне Сеймавай Камісіі па нацыянальных і этнічных меншасцях. Удзел у сустрэчы прынялі прадстаўнікі ўсіх нацыянальных і этнічных меншасцяў з усяго Падляшша. З Варшавы ж прыбылі прадстаўнікі Міністэрства ўнутраных спраў і адміністрацыі, і Міністэрства народнай адукацыі. У выніку самая гарачая дыскусія разгарэлася вакол пытання добраахвотнага вывучэння беларускай мовы ў Беларускім ліцэі ў Гайнаўцы, а, фактычна, пра лёс самога ліцэя на памежжы і этнічнай тэрыторыі беларусаў у Польшчы.



Пра ходу дыскусіі і будучыню ліцэя – гутарка з дырэктарам II Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы Ігарам Лукашуком, які акурат на сходзе быў урачыста прыняты ў склад Супольнай камісіі Урада і нацыянальных ды этнічных меншасцяў Польшчы.

**– Для чаго была створаная Супольная камісія? Якую праблему мае вырашаць?**

– Яна была створаная даўно, каб была камунікацыя непасрэдная між прадстаўнікамі меншасці і ўрадам. Каб вырашаць важныя для меншасці праблемы. Эфектыўнасць пэўна бывае ўсякае, у залежнасці ад таго, наколькі ўрад адкрыты на патрэбы меншасці. Але важна, што яна ёсць, працуе. Праўда, яна ў папярэдняй кадэнцыі доўгія месяцы не працавала. Цяпер ідзе новы рытм, новая камунікацыя. Спадзяёмся, што яна дазволіць развязваць гарачыя праблемы

**– Як вы ацэньваеце прыезд з Варшавы ў Беласток і наколькі эфектыўна праца камісіі на месцы адбылася?**

– Яна яшчэ будзе працягваць, бо сёння была толькі размова. Камісія будзе наведваць месцы, важныя для меншасці, што тут на Падляшшы. Важна адчуць атмасферу, патрэбы і праблемы. З перспектывы Варшавы можна нешта разумець, але не адчуваць сэрцам. Каб гэта адчуць сэрцам, трэба пабываць тут, пагаварыць з людзьмі, паглядзець ім у вочы, зразумець іхныя эмоцыі. Гэта безумоўна вельмі эфектыўны спосаб працы камісіі, каб раз на нейкі час заглянуць да меншасці.

**– Гарачая дыскусія была вакол навучання ў ліцэі ў Гайнаўцы. Што адбываецца, і як вам пазіцыя міністэрства, наколькі яна блізкая да рэальнасці, і хто мае рацыю?**

– Мае рацыю той, хто можа прымаць рашэнні. Такі сумны жарт. Праблема такая, што гэтая інтэрпрэтацыя закона, які зараз ідзе з боку міністэрства, на практыцы зачыняе ліцэі беларускія. Значыцца, пазбаўляе спецыфікі, дзе ўсе ахопленыя навучаннем беларускай мовы. І гэта для меншасці дрэнна, бо ў такой форме, калі цэлая навучальная ўстанова вядзе дзеянні на захаванне нацыянальнай тоеснасці і культуры, найбольш эфектыўна. А калі толькі частка вучняў ахоплена, у нейкіх аддзелах, зразумела, ужо такое асяроддзе не ствараецца. Я перакананы, што такія добрыя вынікі, непаўторнасць беларускіх ліцэяў у Гайнаўцы і Бельску, гэта вынік сямейнай атмасферы, бо гэта школа для асяроддзя. Гэта не толькі ўстанова, гэта эмоцыі, і бацькоў, і вучняў, і настаўнікаў, і ўсіх тых, хто школе памагае. Выпускнікі таксама вельмі заангажаваныя, і маладыя, і тыя, каму больш за 50 гадоў, для іх гэта ўвесь час іхны Гайнаўскі беларускі ліцэй. І эмоцыі пазітыўныя, дапамога, падтрымка. Хацелася б, каб пра гэта можна было гаварыць праз 20, 30 і 50 гадоў.

Вольга Сямашка,
racyja.com

# БЕЛАРУСКІЯ КНІГІ ПАЎЛА СЕВЯРЫНЦА ДЗЯРЖАВА ПРЫЗНАЛА ЭКСТРЭМІСЦКІМІ

20 чэрвеня суд Кастрычніцкага раёна Менска прызнаў “экстрэмісцкімі матэрыяламі” кнігі палітзняволенага Паўла Севярынца.

У Рэспубліканскі спіс экстрэмісцкіх матэрыялаў унесеныя кніга “Каменнае сэрца” – зборнік апавяданняў, напісаных Севярынцам падчас папярэдняга зняволення, “Люблю Беларусь: 200 фэномэнаў нацыянальнай ідэі”, “Беларусалім. Кніга другая. Сэрца сьвятла”.

Паўла Севярынца затрымалі 7 чэрвеня 2020 года пасля акцыі на Камароўскім рынку ў Менску. Пасля гэтага суд пяць разоў запар прызначаў яму па 15 дзён арышту, а пасля супраць яго пачалі крымінальную справу.

У траўні 2021 года Севярынца засудзілі да 7 гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму па артыкуле аб масавых беспарадках (артыкул 293 КК).

hpravy.org

навіны

# ФОНД KAMUNIKAT.ORG АДЧЫНІЎ ІНТЭРНЭТ-КНІГАРНЮ KAMUNIKAT.SHOP!

Рана ці позна гэта павінна было адбыцца – фонд Kamunikat.org адчыніў інтэрнэт-кнігарню Kamunikat.shop! Цяпер тут можна рабіць замовы на ўсе кнігі, выдадзеныя фондам, а таксама на кнігі партнёрскіх выдавецкіх ініцыятываў.

На сайце Kamunikat.shop, сярод іншага, можна замовіць манументальную кнігу “(Не)расстраляныя”, усе 12 кніг Уладзіміра Арлова і новыя кнігі Барыса Пятровіча “Ад жыцця прачнуцца… Фрэскі розных гадоў” ды Змітра Бартосіка “Забіць упалмінзага”.

Таксама можна набыць кнігу Беларускага гістарычнага таварыства “Беларусы ў Польскім Войску (1919 – 1947)” аўтарства прафесара Юры Грыбоўскага.

– Гэта дасканалая магчымасць для нашых кніг трапіць да больш шырокай аўдыторыі ва ўсім сьвеце, – кажа Яраслаў Іванюк, дырэктар фонду Kamunikat.org. – Дагэтуль нашы кнігі прадаваліся ў асноўным на розных кніжных кірмашах з удзелам беларускіх незалежных выдавецтваў, а таксама падчас аўтарскіх сустрэч, арганізаваных фондам і яго партнёрамі. Праўда, мы прадавалі таксама нашы кнігі ў інтэрнэце, але гэта было вельмі па-партызанску… Цяпер гэта будзе больш проста, зручна і сучасна.



Варта дадаць, што з канца 2021 года фонд арганізаваў больш за сотню аўтарскіх сустрэч. У асноўным у Польшчы, але таксама ў Нямеччыне, Італіі, Літве, Латвіі, Эстоніі і Фінляндыі.

Зноў з’явілася “Мова” Віктара Марціновіча.

– Мы ўжо друкавалі гэтую кнігу ў Беластоку ў 2022 годзе. Цяперашняе выданне стала адказам на частыя пытанні чытачоў, – дадае Яраслаў Іванюк.

Таксама неўзабаве выйдзе кніга да 100-годдзя Васіля Быкава з яго аповесцямі “Бліндаж” і “Афганец”. У выдавецкіх планах і кніга журналіста “Радыё Свабода” Алега Груздзіловіча “Прыгоды дзядзі Віці на Валадарцы”. Гэта “кніга вершаў для дзяцей з дарослымі”, у якой аўтар тлумачыць, “як гэта – быць у турме”.

Перад вакацыямі павінен выйсці таксама новы дэтэктыўны раман Змітра Дзядзенкі “Гульні Цырцэй”, дзеянне якога адбываецца на пачатку 1920-х гадоў мінулага стагоддзя ў паслярэвалюцыйнай Оршы.

– Сёлета “Камунікат” плануе выданне трох кніг беларускіх класікаў, але няхай гэта пакуль застанецца таямніцай, якіх менавіта! – дадае дырэктар фонду Яраслаў Іванюк.

У будучыні тут можна будзе набыць кнігі іншых незалежных беларускіх выдавецтваў.

Фонд Kamunikat.org плануе дасылаць кнігі чытачам па ўсім свеце.

Сачыце за сацсеткамі!

kamunikat.org

Быкаву – 100!

# У БЕЛАСТОКУ АДЗНАЧЫЛІ 100-ГОДДЗЕ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ВАСІЛЯ БЫКАВА

У Беластоку не маглі прамінуць такую падзею, якую адзначаюць беларусы ва ўсім свеце, – 100-годдзе з дня нараджэння народнага пісьменніка Васіля Быкава.

У кавярні *Fama*, сіламі Цэнтра беларускай культуры і фонду “Камунікат”, была наладжана вялікая вечарына памяці. Пачалася яна з паказу фільма пра пісьменніка і яго развагаў пра літаратуру.

– На вайне адбыўся ўвесь комплекс чалавечых перажыванняў і чалавечых праблем. Там і жыццё, і смерць, і нараджэнне, і станаўленне, і самасцвярджэнне, і гераізм, і яго антыпод баязлівасць і здрада. Усё там было. І калі б наша грамадства існавала ў дэмакратычнай атмасферы і наша б літаратура развівалася б нармальна, як яна павінна развівацца ў дэмакратычным грамадстве, усё гэта так ці інакш было б даследавана і выяўлена ў літаратуры.

Вяла вечарыну намесніца кіраўніка Цэнтра беларускай культуры Ілона Карпюк:

– І варта было, каб у Беластоку таксама адсвяткаваць супольна стагоддзе Васіля Быкава. Што гэта азначае – “святкаваць”? Па-першае, сустрэцца, паслухаць тых, хто асабіста быў знаёмы з Васілём Быкавым, Уладзіміра Арлова. Гэта адно. З другога боку, летась з’явілася біяграфічная кніга ў польскім перакладзе “Доўгая дарога дадому”. І такім чынам вырашылі запрасіць Яанну Бернатовіч, якая гэтую кнігу пераклала.



Падчас вечарыны сваімі ўспамінамі пра Васіля Быкава дзяліўся Уладзімір Арлоў, пра кнігу “Доўгая дарога дадому”, выдадзеную па-польску, расказала яе перакладчыца Яанна Бернатовіч. Кіраўнік фонду “Камунікат” Яраслаў Іванюк прадставіў выдадзеную ім кнігу Быкава з аповесцямі “Бліндаж” і “Афганец”. Гучалі таксама дуда і спевы ў выкананні Яўгена і Вольгі Барышнікавых.

racyja.com

навіны

# ЦІХАНОЎСКАЯ СУСТРЭЛАСЯ З БЕЛАРУСАМІ ВАШЫНГТОНА

11–13 чэрвеня Святлана Ціханоўская наведвала ЗША. Яна расказала пра мэты свайго візіту ў ЗША: вяртанне ўвагі да Беларусі, падтрымка незалежных медыяў і рэпрэсаваных, падрыхтоўка да Саміту міру ў Швейцарыі, саміту NATO і Генасамблеі ААН, а таксама лабіяванне прыняцця Кангрэсам ЗША Акту аб дэмакратыі ў Беларусі і вырашэнне праблем беларусаў у Амерыцы.



Tsikhanouskaya's press service (Courtesy Photo)

Як паведаміла прэсавая служба Ціханоўскай, яна таксама адзначыла важнасць захавання паслядоўнай пазіцыі адносна нелегітымнасці Лукашэнкі і вызвалення палітвязняў, падтрымкі беларускіх добраахвотнікаў ва Украіне і салідарнасці з палітвязнямі і іх сем'ямі.

Ціханоўская падкрэсліла, што падчас сустрэч выступае за выдачу амерыканскіх візаў на больш доўгі тэрмін (да 3 ці 5 гадоў), выдачу беларусам статусу часовай абароны ці прытулку, спрашчэнне працэдур легалізацыі дакументаў для беларусаў у ЗША і па ўсім свеце. Разам з тым, паводле Ціханоўскай, беларуская дыяспара павінна праяўляць актыўнасць на месцах, пісаць лісты палітыкам і чыноўнікам і самаарганізоўвацца.

Кіраўніца Аб'яднанага пераходнага кабінета падзякавала беларусам ЗША за актыўную грамадскую і культурную працу, арганізацыю мітынгаў і беларускіх імпрэз, таксама падзякавала за ўдзел у выбарах у Каардынацыйную раду.

Падчас сустрэчы Святлана Ціханоўская таксама падкрэсліла прыярытэты сваёй каманды: захаванне незалежнасці і суб'ектнасці Беларусі, вызваленне палітвязняў, эфектыўны ціск на рэжым, падтрымка рэпрэсаваных і вырашэнне праблем беларусаў за мяжой. Яна таксама адзначыла важнасць умацавання нацыянальнай ідэнтычнасці і падтрымкі беларускай культуры.

svaboda.org

# RAZAM: НЕ БОЛЬШ ЗА 40 З ТЫСЯЧЫ БЕЛАРУСАЎ АТРЫМАЛІ МІЖНАРОДНУЮ АБАРОНУ Ў ГЕРМАНІІ

Беларусы, якія зведвалі палітычны пераслед на радзіме, сустракаюць у Германіі "высокі бюракратычны бар'ер", таму актывісты радзей перавязджаюць у гэтую краіну ў параўнанні з Украінай, Грузіяй, Польшчай і Літвой. Пра гэта заявіла падчас падсумоўвання вынікаў праекта VisiBYlity "На новых берагах: праблемы беларускіх мігрантаў у Еўропе" сустаршыня згуртавання беларусаў Германіі "РАЗАМ e.V." (RAZAM e.V.) Марыя Рудзь 17 чэрвеня ў Берліне. Паводле яе слоў, у палітычных уцекачоў ёсць магчымасць атрымаць у Германіі гуманітарную візу.



"Мы ведаем, што 300 беларусаў і беларусак атрымалі такую візу, – сказала актывістка. – Для гэтага патрэбныя вельмі сур'ёзныя доказы таго, што чалавека пераследуюць на радзіме. Звесткі абператрусах, адміністрацыйныя і крымінальныя пратаколы. <…> Персона павінна знаходзіцца не ў Германіі і не ў Еўрасаюзе".

Інакш, з яе слоў, выглядае сітуацыя з атрыманнем міжнароднай абароны ў Германіі: "Каб яе атрымаць, была пададзеная тысяча запытаў ад беларусаў, і ў выніку атрымана не больш за 40 станоўчых адказаў".

"Гэта доўгі працэс, які мае нізкі працэнт пазітыўных адказаў. Чалавек павінен знаходзіцца ў Германіі, абавязаны жыць у лагеры для бежанцаў, а таксама павінны быць дакументы, якія даказваюць рэальную небяспеку знаходжання чалавека ў Беларусі", – падкрэсліла Рудзь.

"Для нямецкіх установаў няма агульнага рашэння па беларусах. Кожны асобны выпадак правяраецца, ці ёсць канкрэтныя факты пераследу па кожным чалавеку", – сказала яна.

Гаворачы аб немагчымасці для беларусаў за мяжой абмяняць нацыянальныя пашпарты, Рудзь адзначыла, што ў Германіі пражывае каля 30 тысяч беларусаў, а гэта значыць, што ў найбліжэйшы час праблема пашпартоў закране ўсіх гэтых людзей". Паводле яе слоў, можна звярнуцца па пашпарт замежніка, з якім можна легальна знаходзіцца ў краіне, вучыцца, працаваць і часткова падарожнічаць.

"Мы звярнулі ўвагу на той факт, што ведамствы не інфармаваныя пра сітуацыю з беларусамі, – адзначыла актывістка. – У выніку лакальным міністэрствам і ўпраўленням у справах замежнікаў была разасланая даведка з інфармацыяй аб тым, што консульскія пытанні не могуць быць развязаныя за мяжой Беларусі, і гэта палепшыла сітуацыю з выдачай пашпартоў замежніка".

Паводле слоў Рудзь, многія атрымалі пашпарт замежніка, але арганізацыі вядомыя прыклады, калі ўладальнікі гуманітарнай візы атрымлівалі адмову: "Ім казалі, што яны могуць паехаць у Беларусь і памяняць пашпарт там".

"У нас вялікі спектр праблем, з якімі мы працуем з 2020 года, каб рабіць палітычную адвакацыю. У выпадках, калі не было поспеху з пашпартамі замежнікаў, мы імкнемся пісаць лісты і даем інфармацыю, што гэта сябры нашага аб'яднання, супрацьстаяць рэжыму Лукашэнкі, і імкнемся дамагчыся пазітыўных вынікаў", – адзначыла прадстаўніца арганізацыі.

Як заявіла Рудзь, паездкі ў Беларусь патэнцыйна небяспечныя і для тых, хто жыве ў Германіі даўно. "Мы не дакументуем такія сітуацыі, але звяртаемся па статыстыку іншых арганізацый, напрыклад праваабарончага цэнтра "Вясна"", – сказала яна.

Актывістка адзначыла, што Razam "не ў сілах ахапіць усе катэгорыі беларусаў за мяжой" і, магчыма, "патрэбны нейкі альянс паміж незалежнымі СМІ, экспертамі і праваабаронцамі, каб павысіць бачнасць беларускіх актывістаў".

"Ёсць шмат прыкладаў, якія не трапляюць у фокус праваабаронцаў, таму што з розных прычын людзі імкнуцца не афішаваць свае выпадкі. На кожным такім выпадку трэба факусаваць увагу незалежных СМІ і далей дзейнічаць па ланцужку", – лічыць Рудзь.

pozirk.online

навіны

# ПАРАФІЯЛЬНАЕ СВЯТА Ў САЎТ-РЫВЕРЫ

Беларусы Нью-Ёрку, Нью-Джэрсі і Філадэльфіі сабраліся ў беларускім цэнтры ў Нью-Джэрсі, каб адзначыць парафіяльнае свята.

5 чэрвеня штогод адзначаецца Дзень Св. Ефрасінні Полацкай – заступніцы перад Богам нашай зямлі і нашага беларускага народу. Імя Св. Ефрасінні носіць беларуская праваслаўная царква, што знаходзіцца ў вядомым Беларускім цэнтры ў Саўт-Рыверы (Нью-Джэрсі). Для вернікаў гэтай царквы – беларусаў, што здаўна жывуць у гэтым горадзе, Дзень Св. Ефрасінні ёсць парафіяльным святам. Сёлета 5 чэрвеня прыпадала на працоўны дзень у сераду, і таму святкаваць сабраліся ў нядзелю 9 чэрвеня. На свята звычайна запрашаюць усіх ахвочых як з Нью-Джэрсі, так і з суседніх гарадоў і мясцовасцяў. Гэтым разам прыехалі беларусы з Філадэльфіі і Нью-Ёрку. Граміду з Нью-Ёрку прадстаўлялі ў большасці парафіяне Сабору Св. Кірылы Тураўскага ў Брукліне на 401 Атлантык Авеню, а таксама ад беларускай царквы ў Квінсе на 104 Атлантык Авеню. І для гэтага ёсць асаблівая прычына.

Для Парафіі Св. Кірылы Тураўскага на 401 Атлантык Авеню святкаванне Дня Св. Ефрасінні Полацкай з'яўляецца таксама ў пэўным сэнсе парафіяльным святам. Як сведчаць гістарычны крыніцы, будынак Сабору быў закладзены менавіта 5 чэрвеня 1850 году, праўда не беларусамі, але пратэстантамі, якія доўгі час валодалі будынкам. Аднак пазней сталася так, што іхная парафія заняпала і яны вымушаны былі прадаць будынак. І, зразумела, што нікому іншаму, як па справядлівасці, менавіта беларусам (дазволім сабе дапусціць, што з падтрымкі Св. Ефрасінні з нябёсаў). Паваенныя эмігранты, якія самі яшчэ нічога не мелі, сабралі патрэбныя грошы і ў 1957 годзе набылі будынак, які да сёння з'яўляецца не толькі царкоўным, але і культурным цэнтрам для беларусаў Нью-Ёрку і ваколіцаў. Сучасная эміграцыя клапатлівае ўтрымлівае і даглядае гэты нашу здабытую старэйшымі беларускую маёмасць у "сталіцы свету", дзе сёння можна пабачыць на будынку тры сцягі: наш бел-чырвона-белы, зорнапаласаты амерыканскі і блакітнажоўты ўкраінскі.

Сярод сучаснай эміграцыі неўзабаве знайшоўся чалавек – сп. Ігар Вырвіч, які на ўласную ініцыятыву вырабіў добрую мастацкую копію знакамітага Крыжа Ефрасінні Полацкай, якая цяпер захоўваецца ў Саборы і канчаткова замацоўвае беларускую прысутнасць у гэтым старадаўнім будынку, які на 33 гады старэйшы за знакаміты Бруклінскі мост.

Вось так імя Св. Ефрасінні аб'ядноўвае дзве беларускія грамады з Нью-Ёрку і Саўт-Рывэера. Пра гэта гаварыў у сваім прывітальным слове да гасцей свята стараста Парафіі Св. Кірылы Тураўскага сп. Аляксандр Хомчанка.

Свята распачыналася богаслужэннем у царкве, а потым працягнулася на пляцоўцы перад будынкам Цэнтру. Святочны пікнік быў адмыслова падрыхтаваны прыхаджанамі. Усё было прыгожа абстаўлена, госці з вялікай ахвотаю частаваліся смачнымі стравамі і дзякавалі гаспадарам. Цёплае, камфортнае надвор'е спрыяла добраму настрою. Праграму ўпрыгожылі беларускія мелодыі, які выконвалі дуэтам Таццяна і Валянцін Дзямешчыкі. Шмат хто ўволю патанчыў, а некаторым было цікавей пагаварыць з сябрамі за сталом ці набыць новых знаёмых. Свята атрымалася душэўным, сяброўскім і ўзняло настрой нашым людзям, што сёння перажываюць смутак і неспакой з-за падзеяў на Бацькаўшчыне і ў цэлым свеце.



На сёння мы маем у блізкай дасяжнасці чатыры беларускія асяродкі – Сабор Св. Кірыла Тураўскага і Беларускі цэнтр у Нью-Ёрку на 401 Атлантык Авеню, дзе месціцца таксама офісы Беларуска-Амерыканскага Задзіночання (БАЗА) і рэдакцыі газеты "Беларус", Царкву на 104 Атлантык Авеню ў Нью-Ёрку, Беларускі цэнтр і Царкву ў Саўт-Рыверы і Беларускую царкву ў Гайленд-Парку. Вельмі важна, што беларусы маюць гэта ў цэнтральным рэгіёне Амерыкі. Мы маем добрую матэрыяльную базу для актыўнай беларускай грамадскай і нават палітычнай дзейнасці, для падтрымкі жыцця эміграцыі і для дапамогі Бацькаўшчыне ў гэты цяжкі, лёсавызначальны час. Мусім захаваць усё гэта дзейсным, як мага больш эфектыўным для нашай нацыянальных патрэб і мэтаў. Неабходна мацаваць нашыя сувязі, аб'ядноўваць магчымасці і сілы ўсіх чатырох асяродкаў, ладзіць разам агульныя акцыі, агульныя праекты, агульныя дзеянні.

Вось такія думкі кружыліся ў маёй галаве падчас побыту ў Саўт-Рыверы і па дарозе дамоў. Спадзяюся, што мяне падтрымаюць і іншыя, хто адчуў, як важна быць разам як падчас святаў, так і падчас агульных спраў. Той жа прыклад Саўт-Рывера мае і іншыя праявы. Хлопцы з Філадэльфіі дапамаглі адрамантаваць Помнік змагарам за Беларусь на тэрыторыі Цэнтру. Яны ж прыязджаюць і дапамагаюць Сабору Св. Кірылы Тураўскага ў рамонтных работах. Дэманструюць тым выдатны прыклад салідарнасці і ўзаемнай дапамогі, што ёсць добрым прыкладам для ўсіх нас.

**Ганна Сурмач, bielarus.info**

# КНІГУ, ЯКАЯ НАЛЕЖАЛА СІМЯОНУ ПОЛАЦКАМУ, ЗНАЙШЛІ Ў САНКТ-ПЕЦЯРБУРГУ

Пра нечаканае адкрыццё напісаў на сваёй старонцы ў фэйсбуку супрацоўнік Расійскай нацыянальнай бібліятэкі, адзін з найвядомейшых прадстаўнікоў беларускай дыяспары ў Санкт-Пецярбургу Мікалай Нікалаеў.

"Пазванілі рэстаўратары: мы тут кніжку рэстаўравалі, Евангелле на арабскай і лацінскай мовах з друкарні Медзічы, Рым, 1591 год. І знайшлі ў напаўненні пераплёту шмат грэчаскіх рукапісных лісткоў. А на апошняй старонцы нейкія славянскія і лацінскія запісы. Можа глянеце?

Падыйшоў, глянуў: лацінскай мовай пра прыналежнасць кнігі іераманаху базыліянскага ордэна Сімяону Піятроўскаму Сітнятовічу. Што значыць – Сімяону Полацкаму. Яго рукой.

Сенсацыя. Пасля вывучэння моцна прагучыць", – напісаў Мікалай Нікалаеў.

**budzma.org**






**навіны**

# У ВІЛЬНІ З АНШЛАГАМ ПРАЙШОЎ КАНЦЭРТ ГУРТА VOLSKI

У апошні дзень вясны гурт VOLSKI ў віленскім клубе Vakaris адзначыў 10-годдзе альбома Hramadaznaustva вялікім электрычным канцэртам.

Як адзначае Лявон Вольскі, менавіта з гэтым альбомам і нарадзіўся сам гурт. Канцэрт у Вільні прайшоў з аншлагам. Паўнюткая зала разам з музыкамі спявала хорам "Простыя словы" ды скандавала "Жыве Беларусь!" і "Слава Украіне".

Канцэрт складаўся з двух аддзяленняў: першае – цалкам прысвечана юбілею альбома "Грамадазнаўства", а ў другім спявалі старыя, улюбёныя хіты. Лявон Вольскі са сцэны ўзгадаў палітвязняў і тых беларусаў, якія аддаюць свае жыцці на вайне ва Украіне.

budzma.org

# ВЫДАВЕЦТВА HOCHROTH MINSK ЗАПУСЦІЛА САЙТ

У выдавецтва hochroth Minsk з'явіўся свой сайт – minsk.hochroth.eu. Навіной у сацсетках падзяліўся паэт і выдавец Дзмітры Строцаў. На адмысловай старонцы можна даведацца пра аўтараў і выдадзеныя кнігі, але галоўнае ўсе выдадзеныя паэтычныя зборнікі можна купіць.

"У ім [сайце] яшчэ ёсць недаробкі, але карыстацца ўжо можна. Усё роўна дапрацоўвацца і папаўняцца будзе няспынна, па меры з'яўлення новых кніг. Заходзьце, калі ласка, на сайт, знаёмцеся, чытайце і замаўляйце кнігі", – піша Дзмітрый Строцаў і дзякуе ўсім, хто працаваў і працуе над інтэрнэт-старонкай.

Сайт працуе на дзвюх мовах – беларускай і ангельскай.

Выдавецтва hochroth Minsk было заснавана як аддзяленне нямецкага выдавецтва Hochroth Verlag і паўстала ў выніку пераследу ўладамі незалежных выдаўцоў у Беларусі. Hochroth Minsk публікуе ў асноўным сучасных беларускіх паэтаў: тых, хто жыве ў Беларусі, і тых, хто быў вымушаны з'ехаць з краіны. З моманту стварэння выдавецтва ўжо выйшлі зборнікі вершаў на беларускай, рускай, польскай, а таксама на ідышы. Таксама надрукаваныя пераклады на некаторыя еўрапейскія мовы.

Кнігі hochroth маюць адзіны дызайн, выпрабляюцца паштучна метадам мануфактуры, кожны асобнік пранумараваны.

Апошняй кнігай, што пабачыла свет у выдавецтве, стаў зборнік вершаў Віктара Жыбуля "Аранжавы". Таксама на нашым сайце можна сачыць за навінкамі выдавецтва па тэгу hochroth-minsk.

bellit.info

# СЯРГЕЙ ДУБАВЕЦ НАПІСАЎ КНІГУ ЭСЭ

У выдавецтве Vesna, якое месціцца ў Празе, выйшла кніга літаратара і журналіста Сяргея Дубаўца з назвай "Стагоддзе НН". У дваццаць шостую кнігу выдавецтва ўвайшло сем эсэ пісьменніка.

"Кніга выбраных эсэ распавядае пра стагоддзе паміж „Нашай Нівай" і „Нашай Нівай", у якім дзейнічаюць: Янка Купала – чараўнік на фабрыцы маскульту, Абдзіраловіч пад псеўданімам Канчэўскі, Васіль Быкаў – пісьменнік экзістэнцыйнай нявыкруткі, Ікар, якому крылы разбурыла сонца, а яшчэ: нянавісць, якая стала любоўю, прыцягальная Амерыка, беларускія масоны, татары, габрэі, шляхта – ад менскіх каранёў да віленскага паветра, ад палітыкі да культуры, ад нараджэння да пахавання Солжа…" – цытуе Сяргея Дубаўца выдавецтва Vesna ў допісе пра навінку.

Выдавец Сяргей Шупа абяцае, што "Стагоддзе НН" літаральна днямі з'явіцца ў інтэрнэт-кнігарнях knihauka.com і kamunikat.shop.

bellit.info



## Беларускі каляндар памятных дат на ліпень 2024 года

**1 ліпеня**
- 120 гадоў таму, у 1904-м, нарадзіўся Генрык Глябовіч, святар, тэолаг. Расстраляны ў 1941-м.
- 110 гадоў таму, у 1914-м, у Мінску створаны настаўніцкі інстытут.

**2 ліпеня**
- 30 гадоў таму, у 1994-м, памёр Іван Ласкоў, пісьменнік.

**8 ліпеня**
- 135 гадоў таму, у 1889-м, памёр Фларыян Міладоўскі, кампазітар, піяніст.

**14 ліпеня**
- 30 гадоў таму, у 1994-м, памёр Пётр Конюх, спявак, дзеяч эміграцыі ў Італіі, Бельгіі, ЗША і Канадзе.

**17 ліпеня**
- 105 гадоў таму, у 1919-м, Урад Літоўска-Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі спыніў сваю дзейнасць.

**19 ліпеня**
- 105 гадоў таму, у 1919-м, памёр Юзаф Беркман, жывапісец.

**25 ліпеня**
- 105 гадоў таму, у 1919-м, памёр Іван Хлябцэвіч, праваслаўны духоўнік, краязнавец.
- 40 гадоў таму, у 1984-м, памёр Уладзімір Караткевіч, народны пісьменнік Беларусі.

**26 ліпеня**
- 115 гадоў таму, у 1909-м, нарадзіўся Янка Макарэвіч, паэт, дзеяч эміграцыі ў Аўстраліі.

**27 ліпеня**
- 55 гадоў таму, у 1969-м, памёр Яўхім Кіпель, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

**28 ліпеня**
- 145 гадоў таму, у 1879-м, нарадзіўся Лявон Рагуля, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне, Бельгіі і ЗША. Памёр у 1955-м.

**29 ліпеня**
- 20 гадоў таму, у 2004-м, памёр Язэп Юхо, юрыст, гісторык права.

**31 ліпеня**
- 75 гадоў таму, у 1949-м, прайшоў першы з'езд Беларуска-амерыканскага задзіночання (БАЗА).

**Беларусы ў свеце**
№ 6 (265), чэрвень 2024
Інфармацыйны бюлетэнь
Супольнасць беларусаў
свету "Бацькаўшчына"

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Адказныя за нумар –
Н. Шыдлоўская,
А. Макоўская

Наклад 250 асобнікаў

zbsb.info e-mail: zbsb.minsk@gmail.com